# ДЗВІНСКІ ЎЗГОРАК

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець
у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №10 (152)
ЛІПЕНЬ 2022 ГОДА


АСОБЫ

## 30 СУТАК АРЫШТУ

**Віцебскі музыка і арт-менеджэр быў затрыманы 6 ліпеня ў райцэнтры Сянно, дзе меўся выступаць на канцэрце «Купальскае кола». Паводле адвочцаў, затрымлівалі Булаўскага без тлумачэнняў: да яго проста падышлі два чалавекі ў цывільным і нібыта павезлі ў Віцебск. Ягоны тэлефон не адказвае дагэтуль.**

Судовы працэс прайшоў у судзе Чыгуначнага раёну, але трапіць туды сябры Булаўскага не здолелі. Даведацца ўдалося толькі пра вынік: 30 сутак арышту за парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў (арт 24.23 КаАП).

За якое канкрэтна парушэнне асуджаны Уладзімір Булаўскі, не ведаюць нават тыя ягоныя сябры, якія бачылі ягонае затрыманне. Яно адбылося 6 ліпеня ў райцэнтры Сянно, дзе віцебскі музыка і арт-менеджэр планаваў выступіць на канцэрце «Купальскае кола». «Да яго мэтанакіравана падышлі двое мужчын у цывільным і затрымалі», – распавялі відавочцы.

Мінулы раз Уладзімір Булаўскі быў затрыманы 27 лютага і асуджаны на 15 сутак паводле таго самага артыкула 24.23 КаАП. Яго абвінавацілі ў несанкцыянаваным пікетаванні на плошчы Перамогі ў Віцебску. Напярэдадні ён пакінуў на сваёй старонцы ў Фэйсбуку заклік выходзіць «пагуляць» на знак пратэсту супраць вайны ва Украіне. Пакуль асуджаны быў пад арыштам, у яго доме правялі ператрус і забралі мабільны тэлефон.

Увогуле ж за апошнія два гады цяперашні арышт для віцябляніна ўжо чацвёрты. У верасні 2020 года яго асудзілі на 8 сутак і прызналі вінаватым у парушэнні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах адразу па двух пратаколах. У лістападзе 2021 года яго пакаралі 7-сутаквым арыштам за «непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы» (арт. 24.3 КаАП).

**Ян Сведка**

*Чытайце сайт*
*Віцебскага раёна:*
**http://vicebskreg.by**

## УЛАДЗІСЛАЎ МАКАВЕЦКІ НА ВОЛІ

**30-гадовы віцебскі мастак, разьбяр па дрэве быў асуджаны па арт. 364 КК («Гвалт або пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні супрацоўніка ўнутраных спраў»). Адбыўшы тэрмін пакарання, Уладзіслаў Макавецкі выйшаў з Івацэвіцкай калоніі №22.**

Інцыдэнт, інкрымінаваны Уладзіславу Макавецкаму, адбыўся падчас пратэставага шэсця ў раёне вуліцы Праўды ў Віцебску 6 верасня 2020г, калі міліцыянты распачалі бойку з мірнымі пратэстоўцамі. Макавецкі нібыта меў намер нанесці нагамі і рукамі ўдары супрацоўніку МУС Фядотаву і замахваўся падабранай з зямлі гумавай палкай на малодшага сяржанта Пятроўскага. Яму прад'явілі фотаздымак, дзе ён трымае гумовы дручок. Гэтым дручком яго ўдарыў міліцыянт, але ад удару дручок вылецеў з рукі сілавіка, а Макавецкі інстынктыўна падняў яго з зямлі.

18 верасня 2020 г. хлопца затрымалі, перад тым правялі вобшук у ягонай кватэры. Быў канфіскаваны шэраг артэфактаў, якія Уладзіслаў Макавецкі рэстаўраваў, бо ён аматар гістарычнай рэканструкцыяй. Неўзабаве пасля гэтага на афіцыйным Тэлеграм-канале МУС Беларусі з'явілася інфармацыя, што затрыманы «з'яўляецца сябрам моладзевага апазіцыйнага руху і сур'ёзна захапляецца фашысцкай сімволікай».

Уладзіслаў Макавецкі – мастак, разьбяр па дрэве, адзін з аўтараў найдаўжэйшай у свеце, амаль 24-метровай драўлянай лыжкі, якую разьбяры супольна выразалі падчас пленэру. Заняткаў мастацтвам ён не пакідаў і за кратамі: некалькі малюнкаў з гістарычнымі сюжэтамі яму ўдалося перадаць на волю. Маці мастака зрабіла з іх паштоўкі, якія даслала сыну на дзень народзінаў, аднак Макавецкаму іх не перадалі. На працягу апошніх месяцаў зняволення з ліставаннем увогуле былі праблемы, але ў тык лістах, што ад яго ўдалося атрымаць родным, палітвязень пісаў: «Ведаю, што ўсё хутка зменіцца. Прынцыпаў сваіх я не мяняю. Не адракаюся ад сваіх перакананняў: вольны той – хто думае свабодна».

**Ян Сведка**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## СТАТИСТИКА ПАДЕЖА ЗА ПЯТЬ МЕСЯЦЕВ

**Падеж крупного рогатого скота в Витебской области за пять месяцев 2022 года составил 4676 голов.**

Как было озвучено на заседании облисполкома, на котором рассматривались вопросы сохранности КРС и результаты работы по реконструкции животноводческих объектов агропромышленного комплекса Витебщины, падёж в этом году увеличился на 0,2% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года.

Напомним, что за этот же период количество коров в сельскохозяйственных организациях Витебской области сократилось на 4400 животных — со 188 200 до 183 800 коров

Прокурор Витебской области Игорь Украинец указал, что прокуратура неоднократно обращала внимание на ненадлежащий учет движения скота, однако ситуация в данной сфере кардинально не изменилась. Высокий износ животноводческих объектов, недостаток средств для их реконструкции и модернизации негативно сказывались на выполнении технологических регламентов и создании необходимых условий для содержания скота.

— Просчеты в определении источников финансирования модернизации животноводческих объектов и оценке финансовых возможностей организаций АПК приводят к образованию долгостроев, не вовлеченных в хозяйственный оборот, — констатировал господин Украинец.

При этом прокурор области внес предложения в проект решения Витебского облисполкома, в том числе в части инвентаризации объектов незавершенного строительства организаций АПК с оценкой их фактического состояния, определением причин, препятствующих завершению работ, целесообразности продолжения строительства, а также иных способов вовлечения их в оборот, сообщает областная прокуратура.

— Результаты надзорных мероприятий приводят нас к выводу, что причины и условия, способствовавшие такой динамике выбытия КРС, характерны для всех регионов страны: отход от технологии выращивания и содержания скота, низкий уровень дисциплины специалистов, отсутствие жесткого контроля со стороны ветеринарных служб. Ответственные работники предприятий АПК вместо того, чтобы принять меры к недопущению падежа скота, активно пытаются скрыть его. Это дает основания усомниться в объективности статистических данных, — заметил заместитель генерального прокурора Сергей Хмарук.

**«Народныя навіны» Віцебска»**

СЕСІЯ

## ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ ПРАЦЫ І ЗАЦВЕРДЗІЛІ ПЛАНЫ

**Дэпутаты ад Віцебскай вобласці падвялі вынікі працы і зацвердзілі далейшыя планы. Перад народнымі абраннікамі вобласці з дакладам выступіў старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў Уладзімір Цярэнцьеў.**

На сесіі была агучаная інфармацыя аб тым, што ў вобласці 220 мясцовых Саветаў дэпутатаў, у тым ліку - абласны, 23 - базавага тэрытарыяльнага ўзроўню, 196 - першаснага.

Цярэнцьеў паведаміў дэпутатам аб крызісе ў прадстаўнічых органах улады. Гэты крызіс звязаны з тым, што з-за каранавіруса і дрэннага медыцынскага абслугоўвання насельніцтва назіраецца масавае скарачэнне насельніцтва ў сельскай мясцовасці.

За апошнія 20 год сельскае насельніцтва Віцебшчыны скарацілася на 80% (200 тысяч чалавек): з 454 да 254 тысяч. Колькасць навучальных устаноў у сельскай мясцовасці з 2012 года зменшылася на 44% (216 школ): з 493 да 277. У значнай ступені скарацілася колькасць сельгаспрадпрыемстваў.

У палове з 6 тысяч вёсак пражывае менш за 10 чалавек. У сярэднім на адзін сельсавет прыпадае 33 населеныя пункты, у асноўным малалюдных. У большасці сельсаветаў не засталося аб'ектаў вытворчай і сацыяльнай сферы. Для ліквідацыі дыспрапорцый і аптымізацыі саветаў пярвічнага ўзроўню абмяркоўваецца пытанне аб'яднання сельсаветаў з колькасцю жыхароў да 500 чалавек.

Цяпер абласным Савеце працуе 53 з 60 дэпутатаў, якія атрымалі мандаты на выбарах 2018 года. У складзе абласнога прадстаўнічага органа ўлады пераважная большасць (каля 80%), начальнікаў і кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў, установаў і арганізацый.

У гэтым абраным грамадзянамі органе адсутнічаюць прадстаўнікі апазіцыі, людзі з альтэрнатыўнымі поглядамі. З-за гэтага ў Савеце не праяўляецца плюралізм меркаванняў дэпутатаў на развіццё сацыяльна-эканамісткай і палітычнай жыцця рэгіёна.

У сваёй справаздачы перад дэпутатамі і ў прысутнасці СМІ Уладзімір Цярэнцьеў, фактычна запісаў на рахунак саветаў вынікі працы выканаўчых органаў улады - абласнога, раённых камітэтаў і гарадскіх адміністрацый.

У кулуарах дэпутаты сыходзіліся ў меркаванні, што прынцыпы функцыянавання мясцовых органаў не адпавядаюць прынцыпам, закладзеным у Законе Рэспублікі Беларусь «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь».

Народныя абраннікі выказвалі думкі пра тое, што прэзідыум са спазненнем рэагуе на пачаткі доўгатэрміновы маштабны сацыяльна-эканамічны крызіс, звязаны з жорсткімі санкцыямі, уведзенымі супраць Беларусі.

**Якаў Дрозд**

ЭКАНОМІКА

# РЭАЛЬНЫ ЗАРОБАК СКАРАЧАЕЦЦА

**На 4,4% знізіўся рэальны заробак у Віцебскай вобласці за год.**

Зніжэнне рэальнай заработнай платы адзначана ужо ў 15 з 21 раёнах Віцебскай вобласці, а таксама ў Віцебску і Наваполацку.

Лідэрам застаецца Наваполацк дзе рэальны заробак у траўні 2022 года быў ніжэйшы за леташні на 16,5%. У абласным цэнтры падзенне гэтага паказчыка склала ўжо 3, 2%, тады як у красавіку не перавышала 1, 4%.

Сярод раёнаў рэальная заработная плата мацней за ўсё ўпала ў параўнанні з маем 2021 года ў Віцебскім (10%), Міёрскім (9,1%), Лепельскім (5,1), Сенненскім (4,4%) і Талачынскім (4,2%) ) раёнах. У цэлым па Віцебскай вобласці гэта падзенне рэальнага заробку склала 4,4%.

Рост паказаць змаглі толькі шэсць раёнаў: Дубровенскі (0,8%), Полацкі (0,2%), Пастаўскі (1,9%), Ушацкі (2,1%), Шаркаўшчынскі (2,1%) і Шумілінскі (3 ,9%).

Характэрна, што Шаркаўшчынскі раён - рэгіён з самым нізкім узроўнем зарплаты ў Віцебскай вобласці. Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў маі там складала 998 рублёў 80 капеек або 75,5% ад сярэдняга ўзроўню па вобласці.

**Ян Сведка**

# ІНВЕСТЫЦЫІ СКАРАЧАЮЦЦА

**Эканоміка Віцебскай вобласці пачала страчваць тэмпы ў прыцягненні інвестыцый.**

За 1,5 года бягучай пяцігодкі ў эканоміку Віцебскай вобласці было прыцягнута каля 1,6 млрд. долараў інвестыцый, што складае толькі 63% ад запланаванага. Калі ўлічыць, што ў 2022 годзе ў дачыненні да Беларусі ўведзены жорсткія санкцыі, то віцебскія ўлады наўрад ці змогуць дасягнуць у 2021-2025 гадах запланаваных, паводле бягучага курсу, 8,5 млрд долараў інвестыцый. Гэта азначае, што ўстойлівае развіццё рэгіёна пад пагрозай зрыву.

Згодна са статыстычнымі данымі за 18 месяцаў спачатку бягучай пяцігодкі ў эканоміку рэгіёну прыцягнута каля $1,6 млрд. інвестыцый з розных крыніц. Гэта паказчык, які знаходзіцца ніжэй за мяжу забяспечвае мінімальнага паказчыка ў пераліку на паўтарагадовы перыяд $2,54 млрд. Гэта адставанне ў тэмпах інвестыцый указвае на тое, што ўстойлівае сацыяльна-эканамічнае развіццё Віцебскай вобласці знаходзіцца пад пагрозай.

Эканамічныя ўлады вобласці раскрылі адрасаты, куды ўкладаюцца грошы. Гэта будаўніцтва цэха па вытворчасці вакцын на плошчах таварыства "БелВітуніфарм", будаўніцтва завода па вытворчасці ветэрынарных прэпаратаў таварыствам "Белкаралін", узвядзенне новых цэхаў і ферм Віцебскай бройлернай птушкафабрыкай, мадэрнізацыя Аршанскага льнокамбіната, асвойваюцца інавацыйныя тэхналогіі ў вытворчасці".

Для параўнання ў 2019 годзе было ўкладзена больш як $1 млрд інвестыцый у мадэрнізацыя Аршанскага льнокамбіната, прадпрыемстваў "Нафтан", "Полацк-Шкловалакно", Віцебскай бройлернай фабрыкі, будаўніцтва завода па вытворчасці металічнага ліста і белай бляхі ў Міёрскім раёне, аб'ектаў другой і трэцяй чэргаў -лагістычнага цэнтра "Брэміна-Орша".

Параўноўваючы бягучыя інвестыцыйныя праекты з праектамі папярэдняй пяцігодкі, то праглядаецца тэндэнцыя перацякання інвестыцыйнага капіталу з экспартных галін прамысловай вытворчасці ў бок галін, прадукцыя якіх разлічана ў асноўным на ўнутранае спажыванне.

**Якаў Дрозд**

ЗДАРЭННІ

# ПЕРЕЛОМЫ, ПОРЕЗЫ, УКУСЫ КЛЕЩЕЙ

**В Витебске за медпомощью за одни выходные обратились 120 человек. Об этом корреспонденту БЕЛТА сообщили в Витебской городской клинической больнице скорой медицинской помощи.**

Жара вынудила людей проводить больше времени у водоемов, прятаться в тени деревьев и кустарников, влияет на внимательность и самочувствие. В результате растетчислотравм,полученных во время отдыха либо работы на приусадебных участках. За выходные травмпункт клинической больницы скорой медицинской помощи областного центра принял 120 человек. Каждый из них обратился с острыми травмами опорно-двигательного аппарата.

"В субботу и воскресенье за медицинской помощью обратились 120 человек. В основном они приходят с переломами, вывихами, различными ранами и укусами клещей и животных, - рассказали в травматологическом пункте. - За выходные зафиксировано около 30 случаев переломов, почти 50 - укусов клещей, 17 человек получили раны, требовавшие первичной хирургической обработки. Еще 3 человека были укушены животными с подозрением на бешенство. В состоянии алкогольного опьянения с травмами обратились 15 человек. Один получил травмы легкой степени тяжести в результате дорожно-транспортного происшествия".

В июне в очереди к травматологу оказались более 2,7 тыс. человек. Более 530 из них жаловались на укусы клещей, свыше 370 обратились с переломами. В топ-3 самых частых травм оказались также раны, требующие первичной хирургической обработки, - около 170. Острые травмы опорно-двигательного аппарата получили почти 120 человек, находившихся в нетрезвом состоянии. Госпитализация в стационар потребовалась 25 пациентам. Еще 15 - первая помощь при ожогах.

Чтобы избежать перегревания и солнечных ожогов, медицинские работники рекомендуют в жаркую погоду отказаться от долгого загара, с 12.00 до 16.00 не пребывать на открытом солнце, использовать солнцезащитные кремы и мази, пить достаточное количество жидкости, чтобы компенсировать ее потерю из-за жары. Во время отдыха на воде следует вести себя аккуратно, не нырять и в целом купаться в разрешенных для этого местах, где рядом дежурят спасательные службы, а при отдыхе с детьми ни на минуту не упускать их из виду.

**БелТА**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ЗЛОДЗЕЯЎ ЗАТРЫМАЛІ

**Шэраг аднатыпных рабаванняў адбыўся пад Віцебскам.**

Невядомы зламыснік прабіраўся на дачныя тэрыторыі, калі гаспадары былі заняты справамі на прысядзібных участках, і прысвойваў сабе чужыя грошы і каштоўнасці.

Супрацоўнікі праваахоўных органаў у выніку аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў выйшлі на след злачынцы. Яго ўдалося затрымаць на месцы злачынства.

Пазней высветлілася, што падобныя злачынствы ўчынялі двое жыхароў Віцебска, 37 і 64-гадовыя сваякі.

У дачыненні да абвінавачаных узбуджана крымінальная справа па частцы 2 артыкула 205 КК РБ.

**Ян Сведка**

КРЫМІНАЛ

# 4 ГАДЫ ПАЗБАЎЛЕННЯ ВОЛІ

**Жыхара Віцебска асудзілі на 4 гады пазбаўлення волі за абразу чыноўнікаў і захоўванне марыхуаны.**

4 ліпеня ў судзе Кастрычніцкага раёна Віцебска вынесены прысуд 35-гадовага Віктару Власенку. Яго прызналі вінаватым па двух артыкулах — арт. 368 і арт. 369 Крымінальнага кодэкса, — а таксама паводле арт. 328 Крымінальнага кодэкса (пры вобшуку ў яго дома была знойдзеная марыхуана для ўжывання). Канчатковае пакаранне ў выглядзе чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму прызначанае шляхам частковага складання пакаранняў па трох артыкулах.

Прысуд вынесла суддзя Сняжана Кіндзеева. Бок дзяржабвінавачання падтрымаў старшы памочнік пракурора Андрэеў.

Пацярпелымі па справе прызнаны намеснік міністра МУС Мікалай Карпянкоў, якому Власенка выплаціў тысячу рублёў маральнай шкоды і Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Наталля Качанава.

У 2021 годзе ў суполцы "Беларусь головного мозга" і "Каратели Беларуси" Власенка пакінуў каментары, якія зневажаюць гонар і годнасць і ўтрымліваюць негатыўную ацэнку прадстаўнікоў улады. Гэта было пацверджана лінгвістычнай экспертызай.

С месца працы мужчыны быў дасланы ліст, у якім арганізацыя прасіла суд прызначыць для Власенка пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі: у гэтым выпадку яны гарантавалі яму працоўнае месца. Але гэты зварот суд праігнараваў пры вынясенні прысуду, бо была абцяжарваючыя пакаранне акалічнасць - раней абвінавачаны быў судзімы.

Прысуд набудзе моц праз дзесяць дзён, калі падсудны за гэты час не падасць апеляцыю ў Віцебскі абласны суд.

**Ян Сведка**

# СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

**У Беларусі з пачатку купальнага сезона патанулі 126 чалавек, у тым ліку 14 дзяцей.**

У Беларусі захоўваецца высокі ўзровень гібелі людзей на вадаёмах: з пачатку купальнага сезона патанулі 126 чалавек, з якіх 14 дзяцей. Для прадухілення гібелі на вадзе МНС праводзіць комплекс мерапрыемстваў, паведамляе МНС.

Ратавальнікі звярнулі ўвагу: трагедый магло быць больш. Так, з пачатку года на вадаёмах выратавалі 197 чалавек, з іх 48-дзеці.

Каб спыніць сумную статыстыку, МНС распрацавала і праводзіць прафілактычны комплекс. У ім — розныя формы работы: SMS-рассылка, рэйды, авиапатрулирование, навучанне і інфармаванне людзей. Распрацавана карта дазволеных для купання пляжаў.

Напрыклад, падчас авіяпатрулявання ў гэтыя выхадныя з вышыні птушынага палёту ратавальнікі назіралі за зонамі адпачынку ля вады ў Віцебскай вобласці. Правялі маніторынг чатырох раёнаў — Віцебскага, Аршанскага, Сенненскага, Лёзненскага. Абследавалі больш за 20 азёр, раку Заходняя Дзвіна. «Гэта маршруты з цяжка правяранай акваторыяй з зямлі», — удакладнілі ў МНС. Пры абследаванні выявілі 20 несанкцыянаваных месцаў купання людзей. А ў нядзелю, 10 ліпеня, ратавальнікі абляцелі акваторыі Віцебска. Праз гучнагаварыцелі нагадалі адпачывальнікам, што купацца ў неўстаноўленых месцах забаронена, і аб правілах паводзін на вадзе.

Свой уклад у павышэнне бяспекі ўнеслі і ўдзельнікі вучэбна-палявога збору. Так, курсанты МНС сумесна з прадстаўнікамі МУС і Міністэрства аховы здароўя ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях абследавалі звыш 80 пляжаў і месцаў, не абсталяваных для купання, распавялі дарослым і дзецям аб важных правілах.

Ратавальнікі настойліва рэкамендуюць выконваць усе правілы бяспечных паводзін на вадзе. «Ні на хвіліну не пакідайце дзяцей без нагляду», — дадалі ў МНС.

**«Звязда»**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КРАМОЛЬНЫЯ КІЛАБАЙТЫ СТАТЫСТЫКІ

**Апошнія дні кожнага месяца я з нецярпеннем чакаю публікацый Нацыянальнага статыстычнага камітэта. Пасля 24 лютага патрэба ў макраэканамічнай інфармацыі, натуральна, шматразова ўзрасла. Адна справа — бла-бла-бла на тэму імпартазамяшчэння, павароту на ўсход і расчыненага насцеж «вакна магчымасцяў», і зусім іншае — эканамічная рэальнасць, увасобленая ў лічбах спецыялістамі.**



Адзін з афарызмаў брытанскага эканаміста Джона Мейнарда Кейнса (1883–1946), чые ідэі мелі вялікі ўплыў на сучасную эканамічную і палітычную тэорыю, абвяшчае: «Попыт нараджае прапанову». На жаль, яго ўніверсальнасць беларускія статыстыкі вось ужо які месяц ставяць пад сумнеў.

Глядзіце самі. 3 443 кілабайтаў у траўні файл «Прамысловасць» зменшыўся да 169 кілабайтаў у чэрвені, а файл «Знешнеэканамічная дзейнасць» за гэты ж перыяд сціснуўся з 353 да 209 кілабайтаў.

Пры скарачэнні прамысловай вытворчасці за студзень-травень на 4,2%, а абароту знешняга гандлю таварамі і паслугамі за студзень-красавік — на 3,3% адпаведная справаздачнасць скарацілася ў 2,6 і 1,7 разы! Калі так пойдзе і далей, то лёгка сабе ўявіць аматара статыстыкі на месцы настаўніка геаграфіі з «Залатога цяляці» Ільфа і Пятрова. Небарака звар'яцеў пасля безвыніковых спробаў адшукаць на бракаванай карце абодвух паўшар'яў Берынгаў праліў.

**«Усё пра яго і крыху пра надвор'е»**

Добрымі намерамі выбрукавана дарога ў пекла. Хто б спрачаўся. За прыкладамі далёка хадзіць не давядзіцца. Аднак абмяжуюся адным: «Нельга допускаць інфармацыйнага вакууму. Пра гэта гаварылася неаднаразова» (так заявіў адзіны палітык амаль год таму — 30 ліпеня 2021-га).

Нельга, але калі вельмі хочацца, то можна. Чарговая інавацыя Нацыянальнага статыстычнага камітэта таму відавочнае пацверджанне.

Паводле перапісу 2019 года, 2,1 мільёна беларусаў мелі вышэйшую адукацыю (22%). За дзесяць гадоў да таго дыпламаваных беларусаў было на 0,6 мільёна менш (16%). Такая дынаміка не магла не адбіцца на прыродзе палітычнага рэжыму. У поўнай адпаведнасці з агульнасусветнай тэндэнцыяй, у Беларускай мадэлі ўсё выразней пачалі выяўляцца рысы інфармацыйнай аўтакратыі.

Да такіх аўтакратый расійскі эканаміст Сяргей Гурыеў адносіць рэжымы, асновай улады якіх з'яўляюцца маніпуляцыя інфармацыяй для большасці і цэнзура альбо кааптацыя (абранне ў клас эліты) для больш адукаванай меншасці. Асноўная мэта гэтых дзеянняў — не даць контрэлітам растлумачыць большасці, што лідар краіны некампетэнтны.

Змяншэнне аб'ёму файлаў у бюлетэні «Сацыяльна-эканамічнае становішча Рэспублікі Беларусь, студзень-травень 2022 г.» — адзін з прыкладаў маніпуляцыі інфармацыяй. Пра прамое скажэнне фактаў гаворка не ідзе. Усё значна працней. Для разумення тэхналогіі, якая выкарыстоўваецца ў гэтым выпадку, дастаткова набраць у YouTube «Вінакур і Аганезаў. Гэта іграем, гэта не іграем, а тут я рыбу заварочваў».

Працэс табуявання асобных раздзелаў статыстычнай інфармацыі (гэта не іграем) набірае абароты. Незалежна ад таго, якія мэты ставяць перад сабой яго арганізатары, далёка не апошнім вынікам іх намаганняў стане прымітывізацыя грамадства.

12 красавіка 2021 года са спісу замежных СМІ, якія атрымалі дазвол на распаўсюд у Беларусі, быў выключаны Euronews. Яшчэ на адну інфармацыйную крыніцу, якая даносіла да беларусаў дыханне планеты, стала менш. Айчынныя СМІ, паводле традыцыі, якая склалася яшчэ ў савецкія гады, спецыялізуюцца на сюжэтах з жыцця насельнікаў верхніх узроўняў уладнай вертыкалі.

Як тут ні прыгадаць жарт часоў дарагога Леаніда Ільіча: «Усё пра яго і крыху пра надвор'е». З культурнай каляіны не так проста вырвацца. Таму «афіцыёз у навінавых праграмах прымаецца аўдыторыяй як стандарт. І гэта горш за любую цэнзуру», — тлумачыць расійскі журналіст Максім Арцем'еў.

У актуальнасці такога тлумачэння можна пераканацца з дапамогай сайта самай папулярнай газеты краіны. Раздзел «У свеце» на галоўнай старонцы прысутнічае, але размешчаны ў самым нізе — пад раздзеламі «Спорт», «Тэлетыдзень» і «Здарэнні».

**Нібы гогалеўская птушка-тройка**

Тым не менш падводзіць рысу пад эканамічнай статыстыкай я б не спяшаўся. Асобныя струменьчыкі, якія змяшчаюць карысную інфармацыю, усё яшчэ пратачваюцца.

Звернемся да кастрыраванага файлу «знешнеэканамічная дзейнасць». Абарот знешняга гандлю таварамі і паслугамі ў студзені-красавіку 2022 г. да ўзроўню студзеня-красавіка 2021 г. склаў 96,7%, экспарт — 97,9%, імпарт — 95,5%. Зніжэнне не катастрафічнае, аднак гэта за чатыры месяцы. Калі ж параўнаць красавік бягучага года з красавіком мінулага, то колькасць падстаў для радасці рэзка паменшыцца: 77,3%, 79,5% і 75,0% адпаведна.

Варта звярнуць увагу на скарачэнне імпарту тавараў з краін Еўрасаюза на 27,8%. І гэта не за красавік, а з нарастаннем за чатыры месяцы!

Ад «гэтых мярзотнікаў» нічога іншага і нельга было чакаць. Аднак звернем сваю ўвагу на другую эканоміку свету, на «наш Кітай». Наколькі з яго дапамогай атрымалася залатаць імпартныя прабоіны? На жаль, павінен расчараваць прыхільнікаў Паднябеснай. Імпарт з Кітая за студзень-красавік скараціўся на 8,6%. Вось такі адказ аматарам «ісці ад жыцця» на канцэпцыю «павароту на ўсход», якая стала афіцыйнай дзяржаўнай дактрынай Саюзнай дзяржавы яшчэ ў 2014 годзе.

Кал гаршчок кіпіць, то ў сябрах няма недахопу. Сяброўства сяброўствам, а тытунь паліць кожны свой. Другая эканоміка свету сваім поспехам абавязана калектыўнаму Захаду. Без шчыльных і разнастайных сувязяў з тым, хто яе спарадзіў, яна існаваць не можа. Таму не варта здзіўляцца, што аб'ём кітайскага экспарту ў Расію з канца лютага да канца траўня знізіўся на 38% у параўнанні з паказчыкамі другой паловы 2021 года.

…Белстат паводзіць сябе, нібы гогалеўская птушка-тройка: «... Куды ж нясешся ты (беларуская мадэль)? Дай адказ. Не дае адказу».

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

РАСІЯ - БЕЛАРУСЬ

# РОССИЯНЕ ХОТЯТ ВКЛЮЧИТЬ В ВОЙНУ БЕЛОРУСОВ

**Чем для Беларуси может обернуться оперативная пауза в войне. Политический обозреватель и историк Александр Фридман: «Лукашенко ведь понимает, что направить войска в Украину было бы, пожалуй, самой большой глупостью, какую себе только можно представить. Даже, если оценивать это не с точки зрения моральных принципов, а с позиции эффективности....»**

Минобороны России официально объявило о паузе в боях в Украине. Как сообщают в ведомстве, в выполнявших «боевые задачи» подразделениях проходят мероприятия «по восполнению боевых возможностей».

— Военнослужащим предоставлена возможность отдохнуть, получить письма и посылки из дома, — цитируют СМИ представителя российского оборонного ведомства...

О том, чем оперативная пауза в войне может обернуться для белорусов, Филин поговорил с политическим обозревателем и историком Александром Фридманом.

**— Российский политолог Владимир Пастухов считает, что до сих пор основные потери российская сторона несла за счет мобилизованных жителей «ЛДНР». Это помогало минимизировать негативные настроения в российском обществе. По мнению Пастухова, следующими кандидатами на роль «пушечного мяса» для Москвы с высокой долей вероятности могут стать белорусы. Произойти это может после стабилизации фронта на Донбассе, когда российскому руководству понадобится новый очаг напряжения, способный отвлечь силы ВСУ. И этот момент может наступить уже в июле. Считаете ли вы такой прогноз реалистичным? И как на Западе оценивают вероятность участия белорусской армии в войне?**

— Сказанное Пастуховым укла-дывается в логику того, что делает рос-сийское руководство, используя жителей Донецка и Луганска в качестве живой силы для достижения своих целей, невзирая на потери.

С такой точки зрения бросить в бой белорусскую армию будет еще более логично. Конечно, идут серьезные дискуссии о состоянии белорусских войск, особенно на Западе.

Но если задача состоит в том, чтобы оттянуть внимание, создать трудности, то белорусская армия на эту роль подходит больше, чем те мужчины на Донбассе, которых просто хватали на улицах.

Но тут возникают вопросы военного и политического характера. В военном отношении эксперты сходятся во мнении, что белорусская армия — это не тот фактор, который может серьезно повлиять на общий ход событий. Западные эксперты вообще крайне критически высказываются о состоянии армии Беларуси — как о материальном ее обеспечении, так и про общую подготовку военных.

С другой стороны, нужно подчеркнуть, что эксперты на Западе имеют достаточно слабое представление о том, что собой являет белорусская армия. Да и вообще мало кто может ответить на этот вопрос.

Что касается политического момента, то главный вопрос — какими будут последствия, если Лукашенко все же пойдет на это. Что будет, если украинцы пойдут в наступление, если боевые действия перекинутся на белорусскую территорию.

Ситуация здесь абсолютно непредсказуемая. Последствия могут быть не только очень плохими для самого Лукашенко, но и крайне неприятными и для России.

Если кратко, то прогноз Пастухова — вовсе не фантастика. Но это очень рискованный вариант, где преимущества неочевидны, а поражение может быть очень серьезным. И поэтому открытым остается вопрос, пойдет ли на это Россия, и как этому будет сопротивляться Лукашенко.

**— Аналитический центр Chatham House провел очередное исследование, как белорусы относятся к войне в Украине. Опрос зафиксировал постепенное снижение доли тех, кто выступает в поддержку действий России. Снижается количество белорусов, которые ждали положительных последствий от войны. Также сокращается доля тех, кто отрицательно относится к сценарию, при котором белорусские солдаты сдались бы в плен украинцам, если наши войска все же пошлют воевать. Исходя из этого, каких последствий стоит ждать в случае вступления в войну в ближайшее время?**

— Это очень интересный момент — то, как исследование Chatham House совпадает с публикацией на немецком портале RND. В этой статье авторы проанализировали возможность вступления Беларуси в войну и пришли к выводу, что Лукашенко лишь пугает этим.

В статье приводится очень интересное высказывание экс-генерала НАТО и бундесвера Ганса-Лотара Домрёзе, одного из главных экспертов по вопросам войны в Германии, занимающего абсолютно проукраинскую позицию и выступающего за поставки вооружений Киеву.

У Домрёзе спросили, почему Лукашенко до сих пор не отправил свои войска в Украину. Генерал подчеркнул, что это не случилось даже тогда, когда для этого был самый благоприятный момент — в феврале, когда россияне стояли под Киевом.

В тот момент была некоторая эйфория у россиян, да и сам Лукашенко говорил про три-четыре дня войны. Возможно, тогда такое решение и белорусское общество встретило бы иначе. Но даже в такой ситуации белорусская армия осталась дома.

Из этого Домрёзе делает вывод, что Лукашенко не хочет отправлять свои войска. И далее идет интересный момент…

Случиться может все, что угодно. И всё же Лукашенко на данный момент не желает участвовать в войне. Наверное, он и в феврале не был уверен в достижении Россией своих целей. А уж тем более сейчас…

*(скарочана)*

**gazetaby.info**

ДЭФОЛТ

# «СТО ГАДОЎ ТАКОГА НЕ БЫЛО, І ВОСЬ ЗНОЎ»

**Дзмітрый Крук: Найгоршыя рэчы, звязаныя з дэфол-там, ужо адбыліся. Расія ўсё ж прыйшла да дэфолту па знешніх пазыках упершыню за 104 гады.**



27 чэрвеня скончыўся льготны перыяд, напрацягу якога Расія павінна была выплаціць крэдыторам працэнты па еўрабондах у памеры 100 мільёнаў долараў ЗША. Аплата да атрымальнікаў не дайшла.

Паколькі гэты плацёж Расія прапусціла, гэта лічыцца падзеяй дэфолту, піша Bloomberg. Такога ж меркавання прытрымліваецца рэйтынгавае агенцтва Moody's. «27 чэрвеня плацяжы па двух купонах еўрабондаў не дайшлі да трымальнікаў аблігацый напрацягу льготнага перыяду, што з'яўляецца дэфолтам па нашым вызначэнні», — гаворыцца ў паведамленні агенцтва.

Масква прызнаваць дэфолт адмаўляецца. У Крамлі лічаць, што Расія выканала абавязацельствы перад трымальнікамі каштоўных папер. …

Але факт у тым, што крэдыторы грошы не атрымалі. Таму — дэфолт.

**Што такое дэфолт, і якія яго наступствы?**

Дэфолт (англ. default — невыкананне абавязацельстваў) — невыкананне дагавора пазыкі, гэта значыць несплата своечасова працэнтаў або асноўнага доўгу па даўгавых абавязацельствах або па ўмовах дагавора аб выпуску аблігацыйнай пазыкі.

Наступствы суверэнных дэфолтаў могуць мець шырокія маштабы: спад у эканоміцы, узмацненне інфляцыі і дэвальвацыя нацыянальнай валюты. Bloomberg адзначае, што ў выніку дэфолту па знешніх абавязацельствах Расія фактычна ператвараецца ў «эканамічнага, фінансавага і палітычнага ізгоя».

Праўда, Расія і без дэфолту ператварылася ў такога ізгоя — у выніку нападу на Украіну. Але, на думку, напрыклад, Алега Пендзіна, выканаўчага дырэктара эканамічнага дыскусійнага клуба (Украіна), дэфолт для Расіі — падзея ўсё ж значная. Паводле яго слоў, расійскі дэфолт «будзе азначаць блакаванне ўсіх дзяржаўных рахункаў, усёй дзяржаўнай маёмасці і маёмасці дзяржаўных кампаній за межамі Расіі. То-бок уся маёмасць Расіі, акрамя дамоў дыпламатычных службаў, будзе арыштаваная, будуць створаны адпаведныя камітэты крэдытораў і пачнецца судовы працэс продажу наяўнай маёмасці Расіі для прад'яўлення да пагашэння даўгоў»...

**А Беларусі за гэта што-небудзь будзе?**

Улічваючы, што Беларусь цяпер цесная завязаная з Расіяй — па экспарце, у разліках расійскім рублём і гэтак далей, — расійскі дэфолт, па ідэі, павінен быў бы ўдарыць і па Беларусі. Тым больш, што ў дачыненні да Сінявокай санкцыі ўведзеныя практычна ідэнтычныя расійскім. Але менавіта таму Дзмітрый Крук і не чакае для нашай краіны «нічога асаблівага» ад расійскага дэфолту…

«У нашым выпадку (Беларусі — Рэд.) застаецца крыху больш мастоў, але зразумела, што контрагенты будуць ставіцца да нас больш насцярожана. Зрэшты, тыя контрагенты, якія да гэтага часу працавалі з Расіяй і Беларуссю, разумеюць, якія рызыкі яны на сябе бяруць. А паколькі дэфолт быў чакаемы і прадказальны, усе, хто не хацеў падвяргацца такім рызыкам, ужо адмовіліся ад супрацоўніцтва з Расіяй і Беларуссю і ад разлікаў з імі», — канстатуе эканаміст.

Вядома, Расіі, якая атрымлівае ад Еўропы каля 1 мільярда долараў штодзень за энерганосьбіты, «дэфолтная» сума ў 100 мільёнаў долараў нават надвор'я не робіць. Тым не менш, факт дэфолту азначае, што разгляд патрабаванняў да Расіі і судовых пазоваў, калі такія будуць, можа расцягнуцца на гады. А гэта значыць, што яе інвестыцыйная прывабнасць і надзейнасць будуць пастаўленыя пад сумнеў яшчэ доўгі час. Нават калі вайну ва Украіне спыніць проста цяпер.

*(скарочана моцна)*

**Тамара Лісічэнка**
**novychas.online**

«НАРОДНЫ ПІСЬМЕННІК»

# ЗА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ НЕ НАПІСАЎ НІВОДНАГА ТВОРА НА РОДНАЙ МОВЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

**Дваццаць восем гадоў у Беларусі ніхто не атрымліваў звання «Народны пісьменнік». Народныя мастакі з'яўляліся, народныя артысты знаходзіліся, а народныя пісьменнікі — не. Час ад часу, праўда, узнікалі чуткі, што тая ці іншая кандыдатура дзе трэба разглядаецца. Пра гэта піша «Народная газета».**

Але ўлада, паперабіраўшы, выносіла аднолькавы негалосны вердыкт — не годны. Ну не адшукваўся ў Беларусі пісьменнік, які адпавядаў бы і талентам сваім, і грамадзянскай пазіцыяй патрабаванням улады.

І вось нешта ў лесе здохла — пісьменнік такі нарэшце знайшоўся. Як знаходзіцца сякера пад лавай. Бо шукаць Мікалая Чаргінца — а ён і займеў доўгачаканае званне — асаблівай патрэбы не было. Мікалай Іванавіч заўсёды, што называецца, пад рукой — і ў Савеце Рэспублікі засядаў, і дзяржкамісіяй па маралі кіраваў, і прыўладным Саюзам пісьменнікам да апошняга часу руліў.

Трэба прызнаць, што сярод сваіх васямнаццаці папярэднікаў — народных пісьменнікаў і паэтаў — ён наўрад ці будзе прыняты да агульнага гурта. Справа ў тым, што новы народны за ўсё жыццё не напісаў ніводнага твора на роднай мове беларускага народа, ён на ёй нават двух слоў звязаць не можа (прынамсі, у публічнай прасторы беларускай мовай ніколі не карыстаўся). То ад імя якога народа Мікалай Чаргінец сабраўся выступаць? Якіх культурных каштоўнасцяў быць глашатаем? І ў каго паднімецца рука паставіць на адну паліцу чаргінцоўскія міліцэйскія дэтэктывы і, напрыклад, «Людзі на балоце» Івана Мележа ці «Знак бяды» Васіля Быкава?

А ставіць у пэўных сітуацыях прыйдзецца — званне абавязвае. І тут можна толькі пашкадаваць тых жа школьных бібліятэкарак, чыя кніжная гаспадарка неўзабаве папоўніцца творамі новага народнага. Бо ім давядзецца ўсё ж неяк засцерагаць школьнікаў ад раскіданых па яго раманах сцэнак. Скажам, разгортвае бібліятэкарка кнігу Чаргінца, а там — інтымныя падрабязнасці з жыцця прэзідэнта. Амерыканскага, вядома ж. І ўсё апісана з такім веданнем справы, як быццам аўтар са свечкай стаяў над гаспадаром Авальнага кабінета ды яго каханкамі. Прашу прабачэння за пікантную цытату, але з песні слова не выкінеш: … *Гимеев нож Джона готов был лопнуть от приятного напряжения, и он тихо сказал: «Ты — сверху!» (скарочана)*

Цытаты як цыкады — зазначыў адзін трапны ў вызначэннях класік, іх чуваць далёка. Вось і падобныя цытаты з Чаргінца, дзякуючы інтэрнэту, чутны і бачны паўсюль, хоць ты вушы затыкай і вочы зашорвай. Ды што цытаты — увесь раман «Тайны Овального кабинета», названы некаторымі крытыкамі парнаграфічным (і, як бачым, небеспадстаўна), знаходзіцца ў вольным доступе.

Бедныя беларускія школьнікі! Дагэтуль яны, праходзячы інтымную лірыку, нудзіліся над «Яварам і калінай» Купалы ды круціліі насамі, спрабуючы ўнюхаць, чым «Пахне чабор» Броўкі. А інтым, аказваецца, можа быць і такім — і таксама ж ад народнага пісьменніка, проста, як выглядае, больш сексуальна заклапочанага. Ён і без звання пралез у школьную праграму, а са званнем усіх празаікаў і паэтаў па гэтай лініі ўраз за пояс заткне.

Як ні дзіўна, схільнага да пахабшчыны Чаргінца вельмі абураюць кнігі з падобным, на яго гледзішча, зместам. Калі быў забаронены фотаальбом, выпушчаны ў свет выдавецтвам «Логвінаў», Мікалай Іванавіч накінуўся на яго з імпэтам сярэдневяковага інквізітара. Маўляў, забараніце — *«и поделом, потому что пошлятина»*, а выдавецтва *«опустило книгу ниже плинтуса»*. Што ж, у чужым воку і стрэмка навідавоку, а ва ўласным і бервяно не відно.

Стварыўшы ў 2005 годзе прыўладны Саюз пісьменнікаў і заняўшы ў захопленым Доме літаратара кабінет, дзе раней сядзелі Максім Танк і Ніл Гілевіч, Мікалай Чаргінец як мог і дзе мог піхаў палкі ў колы саюзу-канкурэнту, шмат разоў зняважліва выказваецца на адрас «не своих» пісьменнікаў. Мне і сёння прыгадваецца, як перажываў нябожчык Васіль Якавенка, калі Чаргінец публічна звінавціў яго і Уладзіміра Арлова ў тым, што яны *«хотят переименовать улицы именами фашистов, в том числе Кубэ»*. Вось так квэцнуў без усякіх на тое падстаў і далей пайшоў — другіх квэцаць. Падобнай кваціаніны ў шматлікіх чаргінцоўскіх інтэрв'ю — «БЕЛАЗ» з прычэпам.

… Па-свойму паказальны факт: Мікалая Чаргінца ў свой час, нягледзячы на высокі міліцэйскі чын, не прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Падчас абмеркавання на прыёмнай камісіі падняўся адзін з самых аўтарытэтных празаікаў Іван Пташнікаў і заявіў (яго словы зафіксаваны ва ўспамінах удзельнікаў абмеркавання): *«Вельмі паважаю міліцыю і вельмі люблю чытаць дэтэктывы, але вось гэта (меўся на ўвазе стос кніг Чаргінца) ніякага дачынення да літаратуры не мае»*. Сказаў — як звязаў. І таварышу генералу было паказана на дзверы.

Думаю, што праз пэўны час адстаўным генералам Чаргінцом у імкненні заняць танкаўскі кабінет рухала яшчэ і прага рэваншу: ах, вы мяне за дзверы выставілі, а я праз акно ўлезу і сяду ў старшынёўскае крэсла. Улез і сеў. І сядзеў амаль сямнаццаць гадоў, ва ўсім падпяваючы ўладзе, нават у адбельванні людажэра Сталіна. Адчуўшы ў высокіх кабінетах адпаведныя павевы, Чаргінец тут жа выказаўся: *«Мне импонирует его взвешенность во многих вопросах. И потом посмотрите, как он относился к писателям. С величайшим вниманием и почтением»*.

Дзясяткі беларускіх пісьменнікаў расстраляны ў Курапатах — вось такое сталінскае *«внимание»*. Сотні беларускіх пісьменнікаў прайшлі праз ГУЛаг, многія там засталіся навечна — вось такое сталінскае *«почтение»*.

… Як пісаў Янка Брыль пра аналагічную сітуацыю яшчэ за савецкім часам: *«Дадуць Героя — будзеш і герой. У гэтым усё — каб далі»*. А Пімен Панчанка, дачуўшыся, што званне народнага сабраліся даць шматтомнаму графаману і даносчыку, пайшоў да Петруся Броўкі і заявіў: *«Калі яму дадуць, я адмоўлюся, і ты адмовішся, бо гэта ж ганьба!»*.

Як яны там, у нябеснай Беларусі, — васямнаццаць па-сапраўднаму народных — перажываюць сённяшнюю ганьбу? Можа, таксама вырашылі адмовіцца ад дыскрэдытаванага найвышэйшым указам звання?

*(скарочана)*

**Міхась Скобла**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: bigsmoll2007@gmail.com
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 15.07.2022 у 17.18**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.